# ЗА СВАБОДНАЕ ВЕРАВЫЗНАННЕ

№3 (29), ліпень-верасень 2011

Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь










***МЕРОПРИЯТИЯ И ДИСКУССИИ: АНОНС***

## Диалог между обществом и религиозными сообществами

Культурно-просветительское учреждение «Центр «Экумена» (Минск) в сотрудничестве с международной организацией «Адвокаты Европы» 9-10 декабря 2011 года проводит международную конференцию «Диалог между обществом и религиозными сообществами и экуменический диалог как фактор устойчивого развития плюрализма и религиозной свободы». Для участия в конференции приглашаются представители государственных органов, международных организаций, экспертного сообщества, религиозных и других неправительственных организаций, учреждений образования и иные специалисты, заинтересованные в данной тематике.

Конференция ставит своей целью обсуждение таких вопросов, как диалог между религиозными сообществами и гражданским обществом, межхристианский и межрелигиозный диалог и сотрудничество, роль диалога в предотвращении конфликтов на религиозной почве, религия и образование, взаимоотношения государства и религиозных организаций и социальная ответственность, правовые основания диалога.

Проведение международных конференций, посвященных теоретическим и практическим вопросам религиозной свободы, становится для Беларуси доброй традицией. В прошлом году прошла аналогичная конференция на тему "Свобода мысли, совести и религии: международно-правовые стандарты и их имплементация в национальные правовые системы европейских государств", основное внимание на которой было уделено международным стандартам религиозной свободы и практике правового регулирования государственно-конфессиональных отношений в европейских государствах и в Республике Беларусь. По итогам конференции была принята резолюция, текст которой мы публиковали в №27 нашего бюллетеня.

ХРАНАЛОГІЯ

# Асноўныя падзеі

**Новы святы** з'явіўся ў Беларускай Праваслаўнай Царкве — быў кананізаваны загінулы ў 1942 г. у ГУЛАГу, дзе апынуўся пасля прыходу бальшавікоў у Заходнюю Беларусь і быў абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі, святар Кіпрыян Клімуц.

**19 чэрвеня** ў Нядзелю ўсіх святых у кафедральным саборы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Нью-Ёрку на епіскапа Віленскага БАПЦ быў хіратанізаваны архімандрыт Серафім (Чыкіта).

**15 ліпеня** быў прызначаны новы Апостальскі нунцый у Беларусі - арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці. Да моманту свайго прызначэння на гэтую пасаду іерарх з'яўляўся Апостальскім Нунцыем у Грузіі, Арменіі і Азербайджане.

**21 ліпеня** на 97-м годзе жыцця адыйшоў у вечнасць кардынал Казімір Свёнтэк, які на працягу 15 гадоў з'яўляўся арцыпастырам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і 20 гадоў — Апостальскім Адміністратарам Пінскай дыяцэзіі.

**1-2 ліпеня** адбыліся традыцыйныя ўрачыстасці ў каталіцкай святыні ў Будславе. У пілігрымках узялі ўдзел некалькі тысяч чалавек. Для ўдзельнікаў фэсту быў уведзены асаблівы прапускны рэжым, ініцыяваны міліцыяй. Пілігрымы з Віцебская дыяцэзіі на чале з кс. Вячаславам Барком правялі малітоўны пратэст супраць прыніжэння годанасці вернікаў, укленчыўшы перад турнікетамі.



westki.info

**Віцебскія пілігрымы перад турнікетамі.**

**У канцы ліпеня** адбыўся экуменічны летнік "На шляху да беларускай Бібліі", у якім ўзялі ўдзел маладыя вернікі ў розных канфесіяў.

З 1 верасня 2011 г. уступіў у дзеянне **новы Кодэкс аб адукацыі**, які значна ўскладніў супрацоўніцтва паміж дзяржавай і рэлігійнымі арганізацыямі. На падставе Кодэксу Саветам міністраў было прынятае новае Палажэнне аб узаемадзеянні установаў адукацыі з рэлігійнымі арганізацыямі.

АСОБА: IN MEMORIAM



catholic.by

# Кардынал Казімір Свёнтэк

21 ліпеня 2011 г. на 97-ым годзе жыцця адышоў у вечнасць кардынал Казімір Свёнтэк, адзін з самых значных рэлігійных постацяў у Беларусі найноўшага часу. Ён нарадзіўся 21 кастрычніка 1914 г. у Эстоніі ў Вальку. У трохгадовым узросце хлопчык разам з сям'ёй быў сасланы ў Сібір. Пасля ссылкі будучы кардынал апынуўся ў Заходняй Беларусі, дзе і скончыў Пінскую Вышэйшую духоўную семінарыю, у красавіку 1939 г. у тамтэйшым саборы ён быў высвечаны на святара і скіраваны на працу ў Пружаны. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, дзе рэлігія жорстка пераследвалася, святар быў арыштаваны і асуджаны на смерць. Два месяцы ён знаходзіўся ў камеры смерці, але пачатак вайны ў 1941 г. перашкодзіў выкананню прысуду. Пасля ж вызвалення Беларусі ў 1944 г. ён зноў быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў лагераў, дзе цяжка працаваў спачатку ў Сібіры, а потым за Палярным колам у Інце каля Варкуты.

Выйшаўшы на волю ў 1954 г., ён вярнуўся ў Пінск, дзе займаўся адбудовай катэдры, у якой прыняў святарскія пасвячэнні. У 1991 г. кс. прэлат Казімір Свёнтэк быў прызначаны першым Мітрапалітам новастворанай Мінска-Магілёўскай Мітраполіі і Апостальскім Адміністратарам Пінскай дыяцэзіі. Сваё біскупскае служэнне Мітрапаліт распачынае ўжо ў паважным узросце, але актыўна наведвае парафіі, засноўвае дэканаты, удзельнічае ў Сінодзе Біскупаў і пасяджэннях Рады Канферэнцыі Біскупаў Еўропы. У 1994 г. Папа Рымскі Яна Павел II надае яму тытул кардынала. 27 верасня 2004 г. Святы Айцец Ян Павел II уручыў кардыналу Казіміру Свёнтку, арцыбіскупу Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму, спецыяльную ўзнагароду «Fidei testis» (Сведка веры), прысуджаную Інстытутам Паўла VI. З 2006 г. праз паважны век, кардынал Свёнтэк на ўласную просьбу быў вызвалены ад адміністратыўных абавязкаў у Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, але ён па-ранейшаму заставаўся духоўным лідарам беларускіх рымакаталікоў, зважаючы на ягоную пастырскую дзейнасць, адданасць Касцёлу і подзвіг хрысціянскага вызнаўства.

## 17-ае Пленарнае пасяджэнне Папскай Акадэміі сацыяльных навук на тэму "Універсальныя правы ў свеце разнастайнасці: датычна рэлігійнай свабоды"

З 29 красавіка па 3 траўня ў Рыме праходзіла 17-ае Пленарнае пасяджэнне Папскай Акадэміі сацыяльных навук на тэму "Універсальныя правы ў свеце разнастайнасці: датычна рэлігійнай свабоды". Пра заснаванне Акадэміі было абвешчана Янам Паўлам II у 1994 г. у дакуменце «Socialum Scientiarum». Мэтай гэтай інстытуцыі з'яўляецца «падтрымка і развіццё сацыяльных, эканамічных, палітычных і юрыдычных даследаванняў у святле сацыяльнай дактрыны Царквы". Прыярытэтныя кірункі даследніцкай дзейнасці Акадэміі наступныя: праца і занятасць, дэмакратыя, глабалізацыя і салідарнасць пакаленняў. Узначальвае Папскую Акадэмію Марыя-Ганна Глендан, дацэнт кафедры права Гарвардскага універсітэта, яна займае гэтую пасаду з 2004 г. Папа Рымскі Бенедыкт XVI накіраваў да ўдзельнікаў пасяджэння свой зварот, у якім выказаў меркаванні аб важнасці абароны свабоды сумлення і яе фундаментальным значэнні для чалавечай асобы. Зварот Вы можаце прачытаць на старонцы 5.

## Канферэнцыя Ўілтон Парк "Спрыянне рэлігійнай свабодзе па ўсім свеце"

З 3 па 5 ліпеня ў Уінстан-хаўз (Бэкансфілд, на Захадзе ад Лондана) праходзіла канферэнцыя Ўілтан Парк супольна з Брытанскім офісам па міжнародных справах і справах Садружнасці, у якой узялі ўдзел эксперты, рэлігійныя дзеячы і палітыкі з розных краінаў свету. Яны абмяркоўвалі, якія механізмы могуць быць выкарыстаныя міжнародный супольнасцю, каб палепшыць магчымасць абараняць свабоду веравызнання ў розных частках свету, дзе рэлігійныя супольнасці сутыкаюцца з пагрозай дыскрымінацыі і гвалту. Беларуская ўдзельніца канферэнцыі Наталля Васілевіч адзначае, што сярод экспертаў, якія займаюцца рэлігійнай свабодай, а таксама сярод еўрапейскіх палітыкаў, практычна нічога невядома пра сітуацыю ў Беларусі, у той жа час, гэтая сітуацыя не выклікае ў іх вялікай цікавасці, а найбольшая ўвага звернутая на тыя краіны свету, дзе існуюць вайсковыя канфлікты, жорсткія аўтарытарныя рэжымы, а таксама ў мусульманскіх краінах. З іншага боку, беларускія эксперты таксама не шмат ведаюць пра парушэнні свабоды сумлення і гвалту на падставе рэлігіі ці веравызнання ў іншых краінах, пра тыя змены ў прававых канцэпцыях датычна рэлігіі і веравызнання, якія адбываюцца; а таксама дыскусіі, якія вядуцца датычна рэлігійных меншасцяў, заканадаўства пра блюзнерства, мадэляў дзяржаўна-царкоўнага супрацоўніцтва.

## Канферэнцыя БДІПЧ АБСЕ ў Рыме на тэму: "Папярэджанне і адказ на інцыдэнты і злачынствы на глебе нянавісці супраць хрысціян"

12 верасня ў Рыме БДІПЧ АБСЕ правяло канферэнцыю на тэму "Папярэджанне і адказ на інцыдэнты і злачынствы на глебе нянавісці супраць хрысціян", у якой прынялі ўдзел эксперты па свабодзе рэлігіі, талерантнасці і правам чалавека, сярод якіх трэба адзначыць праф. М. Эванса (Вялікабрытанія), д-р святар П. Мазуркевіч, генеральны сакратар Камісіі Канферэнцыі каталіцкіх епіскапаў Еўропы (Польшча), д-р А. Вярхоўскі, Цэнтр SOVA (Расія). Мерапрыемства складалася с трох сесіяў, на якіх абмяркоўваліся пытанні злачынстваў на глебе нянавісці супраць хрысціян у рэгіёне АБСЕ, міжнародныя, нацыянальныя і мясцовыя адказы на такія злачынствы і інцыдэнты, а таксама асаблівыя выклікі ў папярэджанні нападаў на месцы пакланення. Па словах беларускай удзельніцы канферэнцыі юрыста Дзіны Шаўцовай, талерантнасць з'яўляецца неабходнай умовай для папярэджання злачынстваў на глебе нянавісці, але выхаванне талерантнасці - гэта доўгатэрміновая задача, у якую павінны быць уключаныя ўсе сферы грамадства, у першую чаргу, адукацыя. Задачай дзяржавы з'яўляецца выкараненне любых праяваў неталерантнага стаўлення да рэлігійных меншасцяў. На жаль, тэндэнцыя ў свеце і нават у Еўропе такая, што злачынствы на глебе нянавісці супраць хрысціян і хрысціянскіх супольнасцяў становяцца нярэдкімі, што і стала прычынай правядзення асобнага тэматычнага мерапрыемства БДІПЧ АБСЕ.



**Фотаздымак: Дзіна Шаўцова (Беларусь) і Роджэр Кішка (Славакія) на канферэцыі БДІПЧ у Рыме**

## ДОКУМЕНТЫ: СОВЕТ ЕВРОПЕЙСКОГО СОЮЗА

*Совет Европейского Союза Заключение Совета по свободе религии и вероисповедания 2973-я встреча Совета по общим вопросам, 16 ноября 2009 г., Брюссель*

Совет принял следующие заключения:

"Совет повторно подтверждает глубокую приверженность Европейского Союза к поощрению и защите свободы религии и вероисповедания.

Совет напоминает, что свобода мысли, совести, религии или вероисповедания, касается равно применяется ко всем людям. Эта одна из основных свобод, которая включает в себя все религии или убеждения, даже те, которые традиционно не практиковались в определенной стране, убеждения людей, принадлежащих к религиозным меньшинствам, а так же нетеистические и атеистические убеждения. В эту свободу так же входит право принимать, изменять или отказываться от своей религии или убеждений по своей свободной воле.

Совет подчеркивает, что защита каждого человека, в том числе людей, принадлежащих к меньшинствам, от дискриминации, насилия и других нарушений, является обязанностью Государств. Государства должны принять необходимые меры, чтобы их законодательные системы предусматривали адекватные и эффективные гарантии свободы мысли, совести, религии и убеждения всем без исключения.

Совет осуждает все формы нетерпимости против людей на основании их религии или вероисповедания.

Совет сожалеет, что в мире все еще существует дискриминация, основанная на религии или вероисповедании, и что люди, принадлежащие к определенному религиозному сообществу, в том числе к религиозным меньшинствам, по-прежнему во многих странах лишены своих прав. Совет встревожен отчетами о недавних и учащающихся случаях крайнего насилия, применяемого против людей, относящихся к религиозным меньшинствам, и выражает свою обеспокоенность по поводу их неблагоприятного положения во многих частях мира.

Совет выражает глубокую озабоченность тем, что в странах, в которых действует законодательство о диффамация религий, такого рода законодательство часто используется для плохого обращения с меньшинствами и для ограничения свободы слова и свободы религии и вероисповедания. Совет подчеркивает, что международные законы по правам человека защищают людей и группы лиц, и, в этой связи, вновь заявляет, что диффамация религий не является понятием, относящимся к правам человека. Напоминая, что права человека превышают пределы отличий между религиями, Совет подчеркивает, что никакие ограничения во имя религии не могут применяться к этим правам и религия никогда не может быть использована для объяснения или оправдания ограничений или нарушения прав личности. ЕС будет продолжать отвергать любые попытки это сделать.

Совет подчеркивает, что свобода религии и вероисповедания неразрывно связана со свободой мнений и их выражения. Свобода мнений и их выражение является необходимой для создания плюралистических, толерантных, терпимых и демократических обществ. Свобода слова, допуская проведение свободных обсуждений и обмен идеями, распространяя информацию о нарушениях прав человека и призывая к ответственности, использование независимых средства массовой информации, телевидения, интернета и других новых средств массовой информации, играет важную роль в борьбе против нетерпимости.

Совет подчеркивает стратегическую важность свободы религии и вероисповедания и важность борьбы с религиозной нетерпимостью, и вновь подтверждает свое намерение продолжать уделять первостепенное значение этому вопросу, являющемуся частью политики Европейского Союза в области прав человека. Совет предлагает соответствующим органам Совета оценить существующие в ЕС инициативы и разработать, при необходимости, предложения, для продвижения свободы религии и убеждений как на уровне двухсторонних отношений, так и в многостороннем контексте".

---

*Совет Европейского Союза Заключение Совета по свободе религии и вероисповедания 3096-я встреча Совета по общим вопросам, 21 февраля 2011 г., Брюссель*

Совет принял следующие заключения:

"Совет вновь подтверждает глубокую приверженность Европейского Союза продвижению и защите права на свободу религии и вероисповедания, без какой бы то ни было дискриминации, и напоминает всеобщие заключения, принятые им на этот счет 16 ноября 2009 года.

Совет выражает свою глубокую обеспокоенность по поводу увеличения числа случаев религиозной нетерпимости и дискриминации, которые выразились в различных странах в недавних актах насилия и терроризма против христиан и их культовых мест, против мусульманских паломников и других религиозных общин, акты насилия и терроризма, которые Совет твердо осуждает. К сожалению, ни одна часть мира не свободна от бича религиозной нетерпимости.

Совет выражает свои соболезнования и солидарность со странамм и всеми жертвами подобных актов и особо отмечает приверженность стран их предотвращению.

Свобода религии и убеждений является универсальным правом человека, которое нуждается в защите везде и для каждого. Первейшей обязанностью Государств является защита своих граждан, включая людей, принадлежащих к религиозным меньшинствам, а также всех людей, находящихся в их юрисдикции, и защита их прав. Все люди, принадлежащие к религиозным общинам и меньшинствам, должны иметь возможность исповедовать свою религию и свободно посещать места культа, индивидуально или сообща, не опасаясь нетерпимости или нападений.

Свобода религии и убеждений неразрывно связана со свободой слова, а также с другими правами человека и основными свободами, которые вносят свой вклад в созидание плюралистических и демократических обществ. Международное сообщество нуждается в консолидации своей коллективной реакции, адресованной тем, кто хочет использовать религию как инструмент разделения, разжигания экстремизма и насилия.

В рамках увеличения усилий ЕС в ее двухсторонних и многосторонних действиях, касающихся свободы религии и убеждений, ЕС и государства-члены по-прежнему привержены осуществлению свободы религии и убеждений во всех частях мира, которые будут рассмотрены в ежегодном отчете ЕС по правам человека.

ЕС будет продолжать работать со странами-партерами и предлагает свое сотрудничество для укрепления религиозной терпимости и защиты прав человека. ЕС в дальнейшем будет участвовать в международных форумах, в частности, организованных ООН, для возобновления решительной межрегиональной поддержки в борьбе против религиозной нетерпимости.

ЕС и его Государства-члены будут и впредь поддерживать инициативы в области межкультурного и межрелигиозного диалога в духе открытости, взаимодействия и взаимопонимания, в том числе в рамках Альянса цивилизаций ООН, ЮНЕСКО и Фонда Анны Линд.

Совет приветствует предпринимаемые усилия по улучшению действий ЕС для поощрения и защиты свободы религии и убеждения, следующий за Заключениями Совета 2009 года. Совет предлагает Верховному представителю представить доклад о принятых мерах и конкретных предложениях по дальнейшему укреплению действий ЕС в этой области."

**СВАБОДА СУМЛЕННЯ: КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА**

# Зварот Папы Рымскага Бенедыкта XVI да 17-га Пленарнага пасяджэння Папскай Акадэміі сацыяльных навук, прысвечаны свабодзе рэлігіі

Яе Яснавяльможнасці прафесару Марыі-Ганне Глендан

Старшыні Папскай Акадэміі сацыяльных навук

Я рады вітаць Вас і членаў Папскай акадэміі сацыяльных навук на Вашым сямнаццатым пленарным пасяджэнні на тэму "Універсальныя правы ў свеце разнастайнасці: датычна рэлігійнай свабоды".

Як я ўжо адзначаў у многіх выпадках, вытокі заходняй хрысціянскай культуры па-ранейшаму глыбокія, менавіта культура дала жыццё і месца для свабоды рэлігіі і працягвае сілкаваць гарантаваныя Канстытуцыяй свабоду рэлігіі і свабоду веравызнання, якімі сёння карыстаюцца многія. У немалой ступені праз іх сістэматычнае парушэнне з боку атэістычных рэжымаў XX стагоддзя, гэтыя свабоды былі прызнаныя і замацаваныя міжнароднай супольнасцю ва Ўсеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека ААН. Сёння гэтыя асноўныя правы чалавека зноў апынуліся пад пагрозай з боку поглядаў і ідэалогіяў, што могуць перашкаджаць свабодзе выражэння рэлігіі. Такім чынам, задача па абароне і заахвочванні права на свабоду рэлігіі і свабоду веравызнання павінна быць пастаўленая ў нашыя дні яшчэ раз. З гэтай прычыны, я ўдзячны Акадэміі за ўнёсак у дадзеную дыскусію.

Імкненне да праўды і сэнсу, адкрытасць да трансцэндэнтнага - глыбока ўпісаныя ў нашу чалавечую прыроду; наша прырода нас заахвочвае даследаваць найбольш важныя для нашага існавання пытанні. Шмат стагоддзяў таму, Тэртуліян ўвёў тэрмін libertas religionis (гл. Apologeticum, 24:6). Ён падкрэсліў, што Богу трэба пакланяцца свабодна, і што недапушчэнне прымусу закладзенае ў самой прыродзе "nec religionis est



cogere religionem" (Ad Scapulam, 2:2). Паколькі чалавек мае здольнасць для свабоднага асабістага выбару ў праўдзе, і паколькі Бог чакае ад чалавека вольнага адказу на Свой заклік, права на свабоду рэлігіі павінна разглядацца як прыроджанае для фундаментальнай годнасці кожнай чалавечай асобы, у адпаведнасці з прыроджанай адкрытасцю чалавечага сэрца да Бога. Насамрэч, аўтэнтычная свабода рэлігіі дазволіць чалавеку дасягнуць самарэалізацыі і, такім чынам, зробіць свой унёсак у агульнае дабро грамадства.

Беручы пад увагу развіццё ў культуры і грамадстве, Другі Ватыканскі Сабор прапанаваў абноўлены антрапалагічны падмурак рэлігійнай свабоды. Айцы Сабору сцвердзілі, что ўсе людзі "заахвочаныя прыродай, а таксама звязаныя маральным абавязкам шукаць ісціну, асабліва ісціну рэлігійную" (Dignitatis Humanae, 2). Ісціна робіць нас свабоднымі (гл. Ян 8:32), і ў той жа час яна мусіць быць адшуканай і прынятай вольна. Сабор вельмі асцярожна даў вызначэнне гэтай свабодзе як праву, якое кожная асоба мае па прыродзе, і якое, такім чынам, павінна быць абаронена і ўзгадаванае грамадзянскім правам.

Вядома, кожная дзяржава мае суверэннае права прымаць сваё ўласнае заканадаўства і будзе выказваць рознае стаўленне да рэлігіі ў законе. Так і ёсць, некаторыя дзяржавы дазваляюць шырокую рэлігійную свабоду ў нашым разуменні гэтага слова, у той час як іншыя абмяжоўваюць яго з розных прычынаў, у тым ліку праз недавер да рэлігіі як такой. Святы Пасад працягвае заклікаць да прызнання фундаментальнага права чалавека на свабоду рэлігіі з боку ўсіх дзяржаў, і заклікае іх паважаць, і ў выпадку неабходнасці абараняць, рэлігійныя меншасці, якія, хоць і звязаныя адрознай ад большасці вакол іх верай, імкнуцца жыць са сваімі суграмадзянамі мірна і ў поўнай меры ўдзельнічаць у грамадскім і палітычнам жыцці народа дзеля ўсеагульнай карысці.

Нарэшце, дазвольце мне выказаць шчырую надзею на тое, што вашыя веды ў галіне права, паліталогіі, сацыялогіі і эканомікі будуць сыходзіцца ў гэтыя дні, каб вы натхніліся свежымі ідэямі па гэтым важным пытанні і тым самым прынелі шмат плёну цяпер і ў будучыні. У гэтыя святыя дні, я прыклікаю на вас багацце пасхальнай радасці і міру, і я ахвотна перадаю вам, біскупу Санчэсу Саранда і ўсім іншым членам Акадэміі сваё апостальскае блаславенне.

*З Ватыкана, 29 красавіка 2011 г.*

**АНАЛІТЫКА: ДЗЯРЖАЎНА-ЦАРКОЎНЫЯ АДНОСІНЫ Ў БЕЛАРУСІ**

# Царква і дзяржава.

Паслявыбарчы час стаў для Беларусі даволі "змрочным". І калі рэпрэсіі супраць апазіцыі закранулі, галоўным чынам, палітычна актыўныя колы грамадства, то значнае пагаршэнне эканамічнай сітуацыі адчулі на сабе ўсе слаі насельніцтва. У сацыялогіі рэлігіі ўжо стала агульным месцам сцвярджанне, што ў складаныя, крызісныя для грамадства часы, істотна ўзрастае роля рэлігіі, якая выконвае гэткую сабе кампенсаторную функцыю альбо функцыю кансалідацыі грамадства. У перыяды нестабільнасці дзяржаўная ўлада спрабуе выкарыстаць легітымуючую функцыю рэлігіі.

Хаця за тузін гадоў выступленні ў выглядзе ўзаемных рэверансаў Беларускай Праваслаўнай Царквы і Прэзідэнта Лукашэнкі сталі даволі прывычным сцэнарам сустрэч і віншаванняў, цяпер іх танальнасць змяняецца. Па-першае, нягледзячы на тое, што кіраўнік Рускай Праваслаўнай Царквы Патрыярх Кірыл павіншаваў Лукашэнку з пераабраннем на пасаду Прэзідэнта, яго мясцовыя адзінаверцы не праявілі з нагоды гэтага пераабрання звыклага энтузіязму. Так, і на Ўсебеларускім сходзе Мітрапаліт Філарэт знаходзіўся ў якасці легітымуючай дэкарацыі, і на інаўгурацыю ён з'явіўся "па пратаколе". Аднак у той жа час афіцыйная газета Беларускага Экзархату "Царкоўнае слова" на сваіх старонках пасля выбараў друкуе лісты прыхажанаў, у якіх выказваецца спачуваннем пратэстоўцам і абурэнне брутальнасцю 19 снежня. Усе астатнія дзеянні розных праваслаўных актывістаў - удзел у акцыях салідарнасці з вязнямі, спробы дабіцца сустрэчаў са святаром для праваслаўных вязняў, кулуарныя размовы і размовы на форумах - насілі непублічны характар. Тым не менш, заўважна знікла прыпісваемая раней Праваслаўнай Царкве ў Беларусі адназначная лаяльнасць у дачыненні да палітычнага рэжыму. А гэтая лаяльнасць ва ўмовах эканамічнага крызісу і правалам дыялогу на міжнародным узроўні, была дзяржаве неабходнай.

На красавіцкай сустрэчы з Сінодам БПЦ, Лукашэнка, не хаваючы, прасіў у Царквы падтрымкі: "Беларуская Праваслаўная Царква паклікана жыць інтарэсамі краіны, выкарыстоўваючы пры неабходнасці дзеля іх абароны ўсе свае сувязі і міжнародны аўтарытэт... Гэта абавязак Царквы служыць народу, дзяржаве, у якой жыве гэты народ... Сёння ваша грамадзянская пазіцыя і пастырскае слова прыкліканыя спрыяць умацаванню стабільнасці і спакою ў грамадстве. [1]. Спробы знайсці ідэалагічную падтрымку сярод праваслаўнага кліру адбываліся і на нізавым узроўні - у тым жа красавіку аддзел па справах рэлігій і нацыянальнасцей Мінгарвыканкаму праводзіў сустрэчу са святарамі і супрацоўнікамі Петра-Паўлаўскага сабору, менавіта таго, дзе выдаецца надрукаваўшая "апальныя" лісты газета "Царкоўнае слова", і прыхажане якога склалі значную частку падпісантаў пад крытычным лістом да Патрыярха ў якасці рэакцыі на яго віншаванне Лукашэнку. На сустрэчы прадстаўнікі дзяржавы цікавіліся тым, якое стаўленне выказваюць у дачыненні да крызісу прыхажане, а таксама спрабавалі ўпэўніць святароў, што эканамічны крызіс - гэта ўсяго толькі часовыя цяжкасці, а менавіта таму святары маюць супакойваць прыхажанаў. Калі раней усе праваслаўныя па замоўчанні лічыліся дзяржавай яе базіснай падтрымкай, то цяпер дзяржаўныя органы вымушаныя дадаткова працаваць для забеспячэння гэтай лаяльнасці.

Што тычыцца Рыма-Каталіцкай Царквы, то падзеі 19 снежня выклікалі нязначную публічную рэакцыю. Крытычныя выступленні святароў насілі індывідуальны і спарадычны характар, і з гэтымі "адзіночкамі" дзяржава працавала ў звычайным рэжыме - праз адпаведныя тэрытарыяльныя ідэалагічныя аддзелы. Аднак у канцы траўня і ў кіраўніцтва Каталіцкай Царквы ў Беларусі ціхая незадаволенасць палітычным напружаннем сублімуецца ў насцярожанасць сітуацыяй у краіне з нагоды эканамічнага крызісу, Мітрапаліт Кандрусевіч публікуе Зварот[2] з нагоды сацыяльна-палітычнай сітуацыі, дзе яна характарызуецца як складаная. Са звароту не вынікае, ці то Мітрапаліт Тадэвуш такім чынам спрабуе "папсаваць" рэнамэ стабільнасці і звярнуць увагу на крызіс (у т.л. і той, што ўзнік з-за адкату ад палітыкі лібералізацыі 19 снежня), у той час як дзяржава публічна стараецца транслюваць ідэю "часовых цяжкасцяў" і "адсутнасці крызісу"; ці то каталіцкі іерарх спрабуе наадварот, дапамагчы дзяржаве "разрулiць" сітуацыю незадаволенасці зніжэннем узроўня жыцця. Шматзначнасць і неакрэсленасць паслання "гасіць" ягоны пафас, што б Мітрапаліт Кандрусевіч ад імя ўсёй Каталіцкай Царквы ні хацеў сказаць.

Як адбіўся эканамічны крызіс на становішчы саміх Цэркваў? На той жа сустрэчы з Сінодам Прэзідэнт заявіў: "Думаю, што і Царкве ў тым ліку, трэба перастаць разлічваць толькі на рэсурсы дзяржавы. Трэба быць актыўней самім, шырэй прыцягваць спонсарскую падтрымку і ахвяраванні"[3], чым адкрыта папярэдзіў пра памяншэнне і так нязначнай фінансавай падтрымкі з боку дзяржавы. Аднак і Беларуская Праваслаўная Царква, і Рыма-Каталіцкая Царква ў вялікай ступені залежаць не ад дзяржаўнага фінансавання, а ад замежнай спонсарскай падтрымкі, хаця на нізавым узроўні - асобных прыходаў, асобных святароў, чый даход складаецца з ахвяраванняў прыватных асобаў, у т.л. у выглядзе "аплаты" за свечкі, літаратуру, ажыццяўленне трэбаў і пад., безумоўна, сітуацыя значна пагоршылася. У выйгрышы засталіся толькі тыя, хто вядзе знешнеэканамічную дзейнасць, як Свята-Елізавецінскі манастыр у Навінках, які па валютным звароце можа паспрачацца з прамысловым прадпрыемствам; а таксама тыя, хто атрымлівае знешнюю спонсарскую дапамогу праз разнастайныя рэсурсныя арганізацыі. Паводле дадзеных міжнароднага фонду "Kirche in not", толькі адзін гэты фонд выдаткаваў беларускаму Касцёлу гранты на агульную суму 455.000 еўра, гэтыя дадзеныя прыводзіць аналітык Кастусь Шыталь, які ацэньвае дапамогу ад розных еўрапейскіх фундацый, у прыватнасці, нямецкага каталіцкага фонду "Renovabis" - у некалькі мільёнаў еўра штогод.[4] Такімі фінансамі эканоміку цэлай краіны не ўратуеш, але невядома, як у дачыненні да гэтай спонсарскай дапамогі павядзе сябе белару-

**АНАЛІТЫКА: ДЗЯРЖАЎНА-ЦАРКОЎНЫЯ АДНОСІНЫ Ў БЕЛАРУСІ**

# Кропкі напружання

*Наталля Васілевіч, Агенцтва палітычнай экспертызы BISS*

ская дзяржава пры яшчэ большым пагаршэнні эканамічнай сітуацыі.

Адной з асноўных кропак напружання паміж дзяржавай і цэрквамі сталі не выбары і не эканамічны крызіс, а пытанне рэпрадуктыўных тэхналогіяў. У гэтым "непалітычным" пытанні і праваслаўныя, і каталікі дазволілі сабе досыць жорсткую крытыку новага законапраекта "Аб рэпрадуктыўных тэхналогіях і гарантыях правоў грамадзян пры іх ужыванні". Тэмы дэмаграфіі, сям'і, абортаў, гінекалогіі, біяэтыкі традыцыйна з'яўляюцца "кароннымі" для цэркваў. У адрозненні ад многіх заходніх краінаў, пытанні біяэтыкі ў Беларусі не маюць "палітычнай афарбоўкі", а, хутчэй, адносяцца да прыватнай сферы жыцця. І праваслаўныя, і каталікі праводзяць грамадскія акцыі, канцэрты, канферэнцыі, ажыццяўляюць праекты, звязаныя з прапагандай сямейных каштоўнасцей, дашлюбнай цнатлівасці і ўсяго комплексу пытанняў, звязаных з сэксуальнай маральнасцю і абаронай ненароджаных дзяцей.

Што тычыцца крытыкі канкрэтнага законапраекта, то з боку Каталіцкай Царквы прагучала адмысловая заява арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча "У сувязі з прыняццем Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу законапраекта аб рэпрадуктыўных тэхналогіях"[5], у якой ён выказаў сур'ёзную заклапочанасць фактам таго, што "законапраект рыхтаваўся без кансультацый з рэлігійнымі арганізацыямі, асабліва з Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквой, якія маюць вельмі многа напрацовак у гэтай галіне і пазіцыі якіх вельмі блізкія, а таксама без адпаведнага грамадскага абмеркавання". Таксама і кс. Андрэй Рылка ў сваім артыкуле на афіцыйным сайце РКЦ адзначыў, што прыняцце законапраекта выклікала "вялікую занепакоенасць экспертаў". Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі прыняла афіцыйную Дэкларацыю адносна пытання экстракарпаральнага апладнення. Ва ўсіх выпадках крытыкі з боку РКЦ прасочвалася афіцыйная пазіцыя дакументаў Каталіцкай Царквы пра недапушчальнасць многіх метадаў штучнага апладнення.

У Праваслаўнай Царкве, хаця адзін са святароў - Георгій Рой - і правёў маральна-этычную экспертызу заканапраект, а прэс-сакратар Мінскай епархіі прот. Сяргей Лепін у даволі жорсткай форме пракаметаваў смі, што заканапраект "знаходзіцца ў рэзкім супярэчанні з пунктам гледжання Праваслаўнай царквы, яе вучэннем", аднак, у адрозненне ад іх каталіцкіх калегаў, выказванням праваслаўных святароў не было нададзена афіцыйнага статусу, таму яны маглі разглядацца адно як асабістыя багаслоўскія меркаванні. Нягледзячы на гэта, сярод праваслаўнай грамадскасці прыняццё законапраекту выклікала значны рэзананс, які, аднак, так і не быў аформлены ў нейкую супольную афіцыйную пазіцыю. І, фактычна, пазіцыі абедзвюх рэлігійных арганізацыяў былі дзяржавай праігнараваныя. Не ўдалося "распаліць" з гэтай нагоды і грамадскую думку. Гледзячы па ўсім, закон будзе прыняты Палатай прадстаўнікоў у другім чытанні, і тады можна чакаць новага вітка дыскусій і крытыкі.

Дзіўным застаецца той факт, што змены ў іншай, важнай для цэркваў сферы - адукацыі, засталіся без якой-кольвек крытыкі, нягледзячы на прыняцце новага Кодэксу ад адукацыі і "Палажэнні аб парадку, умовах і формах узаемадзяння установаў адукацыі з рэлігійнымі арганізацыямі ў пытаннях выхавання навучэнцаў"[6], прынятага Пастановай Савета Міністраў 24 чэрвеня, якое адным махам перакрэсліла ўсе шматгадовыя мары пра адукацыйныя факультатывы па праваслаўнай ці каталіцкай рэлігіі ў школах. Паводле гэтай пастановы ўстановы адукацыі могуць узаемадзейнічаць з рэлігійнымі арганізацыямі толькі ў па-занавучальны час, і магчымасці такога супрацоўніцтва носяць досыць абмежаваны характар[7]. Замест крытыкі праваслаўныя, наадварот, трыюмфуюць з нагоды заключэння новай праграмы супрацоўніцтва з Міністэрствам адукацыі на 2011-2014 гг[8]., спасылаючыся, як на афіцыйны дакумент, на адказ на форуме Міністэрства адукацыі[9], у якім быццам тлумачыцца некаторыя нормы "Палажэння" ў больш мяккіх фармулёўках, аднак прававы статус такога "адказу на форуме" - нулявы. Магчыма, сама Праваслаўная Царква ў асобе сваіх адказных супрацоўнікаў, зацікаўленая ў стварэнні ілюзіі задаволенасці, бо, як паказала практыка ў выпадку з законапраектам "Аб рэпрадуктыўных тэхналогіях", ніякія пратэсты і крытыка ўсё роўна пачутыя не будуць, а тыя з царкоўных дзеячоў, хто дазволіць сабе падобную крытыку, не атрымаюць публічнай падтрымкі ні з боку грамадскасці, ні з боку іерархіі Праваслаўнай Царквы, а, магчыма, яшчэ і падвергнуцца санкцыям.

Той крытычны настрой сярод рэлігійнай грамадскасці, які ўзнік на пачатку года ў сувязі з 19 снежня і дасягнуў кульмінацыі ў абмеркаванні праект Закон "Аб рэпрадуктыўных тэхналогіях" да канца лета паступова пачаў затухаць. Паказальным з'яўляецца той факт, што запланаваны на травень епархіяльны сход Мінскай епархіі БПЦ, які павіне быў спарадзіць дыскусіі ў Царкве датычна многіх пытанняў, так і не быў праведзеным. Ці то ўнутраныя царкоўныя ўлады, спрабуючы пазбегнуць некантраляванай дыскусіі, ці то ўлады дзяржаныя, правядзенню гэтага сходу на піку фрустрацыі перашкодзілі.

Для адраджэння публічнай актыўнасці цэркваў будзе патрэбны іншы штуршок. З ч'яго боку ён будзе - дзяржавы, грамадства ці гэта будзе штуршок хрысціянскай супольнасці, якая ўжо зачатая ўва ўлонні саміх цэркваў, яшчэ кволая, з нескаардынаванымі рухамі, пакуль без свядомасці і голасу, але саспявае, каб нарадзіцца?

**[1] http://president.gov.by/press115936.html#doc**
**[2] http://catholic.by/2/home/news/belarus/hierarchs/109046-kandrusiewicz.html**
**[3] http://president.gov.by/press115936.html#doc**
**[4] http://westki.info/blogs/12180/moza-nam-hety-kasciol-i-nie-patrebny**
**[5] http://churchby.info/bel/693/**
**[6] http://churchby.info/rus/723/**
**[7] http://churchby.info/bel/725**
**[8] http://churchby.info/bel/732/**
**[9] http://www.church.by/resource/Dir0301/Dir0302/2011/Page3846.html**

***Упершыню апублікавана ARCHE (http://arche.by/by/page/ideas/7219)***

**РЭЦЭНЗІІ**

## Шкурова Е.В., Карасёва С.Г., Белов А.А. Отношение страшеклассников и родителей школьников г. Минска к перспективе изучения факультативного курса о религии/религиях. - Отчет о результатах социологического исследования. - Минск. - Издательство "Четыре четверти". - 2011




Исходя из возможности включения в школьную программу образовательных курсов о религии/религии, авторы поставили задачу определить уровень осведомленности учащихся и родителей о религиях, уровень заинтересованности в получении знаний о религиях, изучить поведенческие стратегии относительно возможности введения данной дисциплины в образовательный процесс, выявить основные предпочтения относительно содержания курсов по изучению основ религиозной культуры. В ходе анкетнирования, которое проводилось в апреле и мае 2011 г. в средних школах г. Минска, авторами были опрошены 483 ученика старших классов и 436 родителей учащихся средних школ. Многие результаты опроса были ожидаемыми, однако выявились и интересные тенденции: например, среди учеников средней школы, перед которыми стояла задача назвать одну известную им религию, наибольшее количество респондентов выбрало буддизм (20,8%), на втором месте оказался ислам (16,8%), на третьем - католицизм (15,7%), затем следовало христианство (15,6%) и уже потом православие (13,2%). Также старшеклассники отмечают положительное влияние религии на жизнь общества и человека, однако что касается собственной жизни респондентов, то довольно большое количество отмечают, что не испытавают никакого влияния, особенно это касается школьников мужского пола, при этом значительно отличаются данные в зависимости от административного района. Что касается заинтересованности знаниями о религии религии в школе, то наибольшее число респондентов колеблется между "скорее да, чем нет" (36,2%) и "скорее нет, чем да" (24,3%), а также "затрудняется ответить" (23,3%), при этом около 85% считают, что в случае введения занятий по религии в школе, такой курс должен быть курсом по выбору. Такого же мнения придерживаются и родители. При этом обе группы, касательно содержательного курса, отдают предпочтения тематике, связанной со сведениями о разных религиях, т.е. неконфессионального курса. Выводы исследователей интересны, однако не только дают ответы, но и ставят новые вопросы относительно религиозных и образовательных предпочтений старшеклассников и их родителей.

## Альманах "Сектоведение" - Т.1. - Жировичи. - 2011. - Гл. редактор В.А.Мартинович




Альманах "Сектоведение" - новое для Беларуси издание, в котором сектоведы и ученые делают попытку описать нетрадиционную религиозность в различных ее аспектах, а также приводят различные документы касательно свободы вероисповедания и деятельности новых религиозных движений. В альманах вошли статьи таких авторов как Е.К. Агеенкова ("Фонд новых медицинских технологий AIRES" как псевдонаучное новое религиозное движение), Н.Болоховский (Правовое положение религиозных организаций в Литовской Республике), М.А.Кривицкий (Положение протестантского сектантства на территории Беларуси в 1905-1914 гг.), А.Хотеев (Концепция "золотого века" и Реформация в Беларуси), А.Шимбалев (Предсказания о "конце света" в 2012 (исторический и астрономический анализ)). Особый интерес вызывает статья В.А.Мартиновича "Влияние миграции и возникновение новых религиозных движений на формирование конфессионального пространства Беларуси", в которой описываются результаты исследования, которое автор проводил с 1997 по 2008 гг., в процессе которого собиралась всевозможная информация о времени и путях проникновения НРД в Беларусь, в т.ч., название, характер появления, год основания, страна основания, год миграции в Беларусь, страна из которой мигрировала в Беларусь, тип организации согласно особенностям ее структуры, тип организации согласно особенностя ее содержания, тип миграции в Беларусь. Неожиданным для автора оказалось "открытие того факта, что законы о свободе совести и вероисповеданий, поправки к ним, а также принятие документов, регулирующих деятельность религиозных организаци и органов, контролирующих исполнение законодательства в области религиозных организаций (например, постановление о порядке приглашения иностранных священнослужителей, положение об Экспертном Совете при Государственном Комитете по делам религий и национальностей и т.д.), практически не оказывают никакого влияния на процессы миграции и возникновения сект и культов в Беларуси". Следует также отметить, что авторы альманаха значительное внимание уделяют развитию протестантских направлений христианства, относя их к "сектам" или "сектантским движениям", а также содержат межконфессиональную полемику. Кроме статей в альманахе приводятся различные документы по вопросам сект и новых религиозных движений.

**Бюлетэнь**
**«За свабоднае веравызнанне»**
**Bulletin of «For Freedom of Religion»**
№3 (29), ліпень-верасень 2011

Паштовы адрас: 220002,
а/с 30, Мінск,Беларусь
**E-mail: info@forb.by**
**web-site: www.forreligiousfreedom.info**
Тэл.: (+375 17) 282-42-10

Наклад 299 асобнікаў

**Распаўсюджваецца бясплатна**